

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 34 (217)
Субота, 26 жніўня 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# АГЛОНА... ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЛАТВІЯЙ

***13 жніўня ад Чырвонага касцёла ў Мінску праз усю Беларусь да суседняй Латвіі накіравалася пілігрымка. Так шмат гаварылася напярэдадні аб гэтай пілігрымцы; у бюлетэні "Голас душы" падавалася гісторыя Базылікі ў Аглоне ў Латвіі, якая была мэтай і стала канчатковым пунктам нашай пілігрымкі.***

Але ўсё, аб чым гаварылася і друкавалася, ні ў якае параўнанне не ішло з тым, што адбывалася і адчулася ў часе вандравання. Як быццам адкрыўся іншы свет, зышоў шматлікімі ўражаннямі. Подых зусім новых перажыванняў вітаў над пілігрымамі, а рэчаіснасць была настолькі ўзнёслай, што ўсё, што адбывалася на нашых вачах, і ў чам мы самі бралі ўдзел, успрымалася ў новым духоўным разрэзе.

Раніцай, у нядзелю, 13 жніўня, тры аўтобусы з пілігрымамі адправіліся ад касцёла святых Сымона і Алены. Шлях ляжаў у Віцебскую вобласць, у пасёлак Вушачы – радзіму вялікага беларускага паэта Рыгора Барадуліна. І першым прыпынкам стаў касцёл святога Лаўрэна, пабудаваны ў 1908-1913 гг. У той момант, калі мы ўвайшлі ў касцёл, там працягвалася нядзельнае Набажэнства, у часе якога адбываўся хрост малога дзіцяці – хлопчыка Яўгена. Вельмі сімвалічным было тое, што, акрамя сказаных на жыццёвую дарогу слоў у адрас новаахрышчанага дзіцяці і яго бацькоў, скіраваных з боку святара і прысутных тут родных, з'явіўся і памятны падарунак з рук славутага паэта Рыгора Барадуліна. Ён уручыў бацькам зборнік сваіх духоўных вершаў "Ксты". А потым, калі рабіўся фотаздымак на памяць, паэт трымаў дзіця за руку і, з прысутным беларускаму песняру тонкім пачуццём гумару, сказаў: "Потым, Яўгенка, калі вырасцеш, будзеш казаць з гонарам: мяне трымаў за руку сам дзядзька Рыгор".



На заканчэнні святочнага Набажэнства зборны хор з парафіяльных калектываў Чырвонага касцёла "Голас душы", "Арханёл" і "Сымонкі" выканаў для жыхароў і гасцей пасёлка Вушачы некалькі музычных твораў.

Ад Вушач пілігрымы накіраваліся далей па блакітным краі, адной з найпрыгажэйшых частак нашай Беларусі, па Глыбоччыне. У вёсцы Задарожжа, што мяжуе з вёскай Вусава ў Глыбоцкім раёне, у касцёле Маці Божай Ласкавай праходзіла візітацыя біскупа Віцебскай дыяцэзіі Уладыслава Бліна. Здавалася, уся Віцебшчына рыхтавалася да ўрачыстага прыёма свайго знакамітага пастыра. Улічваючы, што біскуп Уладыслаў сам паходзіць з гэтых краёў, то сустракалі яго тут не толькі як высокага госця, настаўніка і святара, але і як блізкага роднага чалавека, бацьку і сябра. Ан-

самблі народнай музыкі, калектывы народных спеваў сабраліся тут з самых розных куточкаў Віцебскай вобласці. Касцёл стаіць на беразе прыгожага возера, і покуль быў час да сяточнай Імшы, госці маглі палюбавацца тым відам на касцёл, які адкрываўся з боку возера. За вольную гадзіну людзі змаглі крыху адпачыць з дарогі, папіць вады, з'есці бутэрброды, пачаставацца гарбатай, якую сардэчна прыгатавалі жыхары вёсак, што ўваходзяць у парафію касцёла Маці Божай Ласкавай.

На сустрэчу з высокім госцем прывезлі былога пробашча касцёла ў Задарожжы ксяндза Люцыяна Паўліка. На калясачцы, бо ён сам ужо не можа хадзіць, уносілі яго па прыступках у касцёл. І здавалася, што на высокім троне ўплывае гэты легендарны 96-гадовы святар у дом, дзе ён так доўга служыў Богу і людзям. Як падаюць хрысціянскія крыніцы: "Ксёндз Люцыян Паўлік, здаецца, заўсёды быў у Задарожскім касцёле...

На сваім святарскім шляху айцу Люцыяну прыйшлося шмат выцерпець, і галоўным выпрабаваннем былі шэсць гадоў у сталінскім лагеры. "Я палюбіў тайгу за яе прыгажосць, дзявоцкасць і самотнасць, – успамінаў ксёндз Люцыян, – але хацелася б як найхутчэй адтуль вырвацца, каб быць сярод людзей, гэта значыць "у маральнай тайзе", там карчаваць грахі, нівэліраваць правіны і святымі сакрамантамі будаваць масты паміж небам і зямлёю". Такія масты паміж небам і зямлёю айцец Люцыян Паўлік будаваў больш як 60 гадоў сваёй службы. І тады, калі яшчэ клерыкам працаваў у Польшчы. І калі вайной прыняў Ідолцкую парафію пасля мучаніцкай смерці ксяндза Баляслава Грамса. І калі пасля пажару друйскага касцёла стаў пробашчам гэтай парафіі і, па сутнасці, зрабіў немагчымае: у такі цяжкі ды неспрыяльны час адрамантаваў святыню. І тады, калі, "заслужыўшы" тым рамонтам ды службаю Богу 25 гадоў зняволення ў Гулагу, ён сваім святарскім словам суцішыў бунт вязняў, які



мог нарабіць шмат бяды. І тады, каля пасля лагеру ён прыехаў у задарожскі касцёл, каб на працягу доўгіх 46 гадоў несці тут службу Богу. І не толькі ў задарожскім касцёле, але і ў Кабыльніку, да якога ад Задарожжа 100 кіламетраў, і ў Лынтупах, да якіх 140 кіламетраў".

З вялікай пашанай сустракалі айца Люцыяна, дзякуючы якому шматлікія вернікі ўбачылі свет Ісуса Хрыста, пачулі Слова Божае, знайшлі дарогу да храма, паверылі, што ёсць збаўленне і дапамога ў цяжкім жыцці – вера.

Хлебам з соллю сустракалі і шаноўнага ксяндза-біскупа Уладыслава Бліна на парозе касцёла. Увайшоў ён у святыню ў суправаджэнні парафіян, дзетак, хароў і святароў. Распачаў урачыстаць словамі ўдзячнасці ўсім тым, хто адстаяў веру, выцярпеў у гады атэізма, прывёў да касцёла сваіх дзетак і ўнукаў, тым самым пасеяўшы зярняткі веры ў жыватворную глебу, бо ўраджаем можна лічыць тое, колькі дзетак і моладзі сабралася ў гэты дзень у касцёле. Біскуп Уладыслаў, як добры пастыр, пазбіраў усіх дзяцей з касцёла і запрасіў іх усіх бліжэй алтара. Бо хто можа быць найбліжэйшы да Бога, як не самыя нявінныя з Яго стварэнняў - дзеці. Вось так, у акружэнні хлапчукоў і дзяўчынак, і працягваў сваё своеасаблівае казанне, ці споведзь перад землякамі, ці проста размову з блізкімі яму людзьмі.

*Ала Неверовіч*

*Працяг будзе*

* * *

Ад хутара майго каб след які,
Як ад пачутаай
Вавілонскай вежы.
Ад баразны гракі,
З руі ваўкі
Пакінулі маіх прысненняў межы.
І валуноў радзімыя знакі
Унеўзнаку сышлі
З іржышча, з араллі.
Там пуп зямлі,
дзе адразалі пуп.
Там неба небаў,
Дзе зара гавела.
І посная куцця з абдзёртых круп
У місе дастывала аўдавела.
І бацькаву далонь,
Як свежы йзруб,
Прасвечвала святло,
Што за вакном жыло.
Апошні я, ў
Кім жыве яшчэ,
У верасоў пазычыўшы
найменне.
Пад крылы соў
Страх хлапчука ўцячэ.
І цемя цемры ахіне карэнне.
Каб захаваў,
Валока валачэ
Мне студню, й дзеразу,
І маміну слязу...

*Рыгор Барадулін*

# 26 АВГУСТА - ВОСПОМИНАНИЕ НАЙСВЯТЕЙШЕЙ ДЕВЫ МАРИИ ЧЕНСТОХОВСКОЙ

***Ченстоховская икона Божией Матери относится, по преданию, к тем 70-ти иконам Пресвятой Богородицы, которые написал святой евангелист Лука. Она была написана в Иерусалиме, в Сионской горнице.***

В 66 - 67 годах, во время нашествия римских войск под предводительством Веспасиана и Тита, христиане бежали в местечко Пеллу. Вместе с другими святынями они сохраняли в пещерах и Ченстоховский образ Богоматери. В 326 году, когда царица Елена ходила в Иерусалим для поклонения святым местам и обрела Крест Христов, она получила в дар от христиан эту икону, привезла ее в Константинополь и поставила во дворцовой часовне, где святыня находилась в течение пяти веков.

В Россию чудотворный образ с великой честью был принесен основателем города Львова галицко-волынским князем Львом Даниловичем, и помещен в Бельзском замке под ведением православного духовенства.

Впоследствии, при завоевании Западной Украины поляками, чудотворная икона досталась польскому правителю князю Владиславу Опольскому. Татары, вторгнувшись в пределы России, осадили замок Бельз. Уповая на помощь Матери Божией, князь Владислав вынес святыню из церкви и поставил на городской стене. Пронзенный вражеской стрелой, чудотворный образ сохранил навсегда следы истекшей крови. Спустившаяся тогда на татарское войско вредоносная мгла заставила их снять осаду замка и удалиться в свои пределы. Заступница Небесная в сонном видении повелела князю перенести чудотворную икону на Ясную Гору Ченстоховскую. Основав в 1352 году монастырь на Ясной Горе – (так ее называли за множество происходивших там чудес), князь Владислав перенес в него чудотворную святыню, вверив ее на хранение монахам Паулинского ордена. Через несколько лет обитель была ограблена гуситами. Лишив ее всех сокровищ, они хотели похитить и чудотворный образ, но невидимая сила удерживала коней, и возок со святыней не тронулся с места. В ярости один из грабителей сбросил святую икону на землю, а другой ударил мечом по лику. Тут же справедливая кара постигла всех: первого разорвало на части, у второго отсохла рука, остальные упали замертво или поражены были слепотою.



В середине XVII века шведский король Карл X Густав, взяв Варшаву и Краков, потерпел поражение под Ченстоховским монастырем на Ясной Горе. Помощь и заступнiчество Царицы Небесной ободрили поляков, а король Ян Казимир, возвратясь во Львов, обнародовал манифест, по которому поручал свое государство покровительству Божией Матери, называя Ченстоховский Ее образ «Польской Королевой». Война со шведами в 1656 году закончилась для Польши успешно.

Множество чудес от Ченстоховского чудотворного образа было засвидетельствовано в особой книге, хранящейся в храме Ченстоховского монастыря. С этой иконы сделано было много списков как для католических, так и для православных храмов.

*www.pobeda.ru*

## КОТЫ СУЩЕСТВУЮТ!

***11-ти летняя дочь министра добилась признания от Рим-ского Папы.***

«Ваше Святейшество, от имени моей маленькой дочери я могу задать Вам вопрос? Вы все еще держите котов?»

Так советник Эннио Пасторе обратился к Римскому Папе незадолго до того, как тот покинул Валле д'Аоста, с вопросом от своей 11-летней дочери Элизабет.



«В гостиной домика в Ле Комбе, где собрались все местные власти, на мгновение воцарилась тишина. Епископ Джузеппе Анфози сидел слева, и мы обменялись потрясенными взглядами, – рассказывает Лучано Кавери, президент Вальдостана. – Но Римский Папа тут же ответил с улыбкой: «Конечно, я продолжаю держать котов». Все в комнате просто покатились со смеху».

Так, благодаря маленькой Элизабет, приоткрылась тайна папских котов, заполнившая множество газетных колонок после выборов Папы.

*Ратцингер-Информ*

# СВЯТЫ І ЗЛАЧЫНЕЦ

***Адзін з іх стаў сімвалам бязмежнай любові да бліжняга, другі – нянавісці чалавека да чалавека. Абодва прагнулі заваяваць увесь свет для сваіх ідэалаў... Сорак сем гадоў жыцця гэтых людзей паказалі, як яны змаглі стаць процілеглымі сімваламі дваццатага стагоддзя.***

*Заканчэнне, пачатак у № 32*

У жніўні 1941 года Гесса занепакоіла вестка, якая ў імгненне вока разышлася па ўсім лагеры: забілі святога!

- Гэр Фрыцш, што гэта за пакутніка мы зрабілі ў Асвенцыме?

- Гаворка ідзе, гэр кашталян, аб манаху Максіміліяне Кольбе.

- Аб гэтым заснавальніку горада Беззаганнай у Польшчы і Японіі?

- Так, сапраўды гэта той, хто жадаў заваяваць увесь свет для Хрыста праз Беззаганную.

- Канкурэнт нашага фюрэра, – іранічна сказаў Гесс, – я яго добра памятаю. Не раз прыглядаўся да яго. Ну, і што з ім адбылося?

- Заахвоціўся пайсці на галодную смерць за свайго сакамерніка.

- А колькі гадоў было гэтаму айцу?

- Сорак сем.

- Сорак сем, – Гесс задумаўся. – А колькі гадоў пражыву я?

Пасля гэтага Рудольф стаў яшчэ больш бязлітасным. Увесь час паўтараў: "Нас чакае велізарная праца. Мы павінны вынішчыць яшчэ гэтулькі людзей". Ён абсталяваў газавыя камеры, дзе вязняў забівалі газам «Цыклон Б». Пазней былі пабудаваныя два вялікія крэматорыі. Канцлагер у Асвенцыме таксама стаў месцам, дзе праводзіліся жахлівыя медыцынскія эксперыменты на людзях.

Калі Гесса пыталі, навошта забіваюць мільёны нявінных людзей, ён адказваў:

- Галоўнае, што, мы павінны слухаць фюрэра, а не філасофстваваць.

У канцы вайны Гесс апынуўся з фальшывымі дакументамі на вайсковым флоце.

А ў гэты час увесь свет шукаў найвялікшага злачынцу сучаснасці!

Рудольф Гесс паўстае перад Трыбуналам. За злачынствы супраць чалавецтва яго прысудзілі да смяротнай кары.



## ПАКАЯННЕ ГЕССА

А. Карл Майсснер у часопісе «W drodze» №2/1995 піша аб пакаянні Гесса, пра якое пачуў падчас сваіх манаскіх рэкалекцый:

Кашталян Асвенцымскага канцлагера Гесс чакаў прывядзення да выканання смяротнага прысуду, седзячы ў адной камеры з іншымі смяротнікамі, па іроніі лёсу, кіраўнікамі польскай «Арміі Краёвай». Адзін з іх быў святаром, здаецца, езуітам. Гесс перажыў самае глыбокае пакаянне і жадаў прыняць смерць як адплату за свае злачынствы; зрэшты, некалі ён быў каталіком. Доўга спавядаўся ў гэтага святара, таксама асуджанага на смерць. Вязні вырашылі адправіць, магчыма, апошнюю Святую Імшу ў іх жыцці. Ім удалося знайсці трохі віна і аплатак. Наколькі памятаю, келіх яны зрабілі з хлеба. Задумаліся толькі над тым, як зрабіць алтар. У іх паўстала ідэя, што лепшым алтаром будуць рукі таго з іх, хто павінен быць пакараны раней усіх. Гэта быў менавіта Гесс. І на яго руках той святар, пасля памілаваны, адслужыў Святую Імшу. Гэты прыклад глыбока ўразіў мяне, бо я памятаю, чым падчас вайны быў для нас Асвенцым, колькіх маіх сяброў і знаёмых было там і загінула. Аднак пасля канферэнцыі хтосьці падышоў да мяне і сказаў: «Пасля ўсяго таго, што мы перажылі падчас вайны, Вам не трэба прыводзіць такіх прыкладаў. Гэты прыклад абуральны, таму што такім злыдням няма прабачэння". Я падумаў аб тым, ці разумеем мы любоў Бога да грэшнікаў, ці сапраўды мы жадаем выратавання людзей? А можа быць, і самі не жадаем выратавацца?

Прыклад пакаяння такога вялікага злачынцы, як Гесс, сведчыць аб бясконцай літасці Божай. Пакуль чалавек жыве на гэтай зямлі, у яго заўсёды ёсць магчымасць пакаяцца, нават калі ён найвялікшы грэшнік.

*Януш Стажыньскі*

## МОЛИТВА К ДЕВЕ МАРИИ О ЛЮБВИ

Святая Мария, Матерь Божия, Ты подарила миру истинный свет, Иисуса, Своего Сына - Сына Божия.

Ты всецело предалась призыву Божию, став источником проистекающей от Него доброты.

Покажи нам Иисуса. Приведи нас к Нему. Научи нас узнавать Его и любить, дабы и мы могли стать способными на истинную любовь и стать источниками воды живой посреди жаждущего мира.

*Молитва составлена Папой Бенедиктом XVI*
*Из энциклики «Deus Caritas est»*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 27 ЖНІЎНЯ, 21 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

## ЧЫТАННЕ ПЕРШАЙ КНІГІ ЕЗУСА НАВІНА

*(Нав 24, 1-2а, 15-17, 18)*

У тыя дні: Езус Навін сабраў у Сіхеме ўсе плямёны Ізраіля і паклкаў таксама старэйшых Ізраіля, яго кіраўнікоў, і суддзяў, і назіральнікаў. І сталі яны перад абліччам Госпада.

І так прамовіў Езус Навін да ўсяго народа: Калі вам здаецца кепскім служыць Госпаду, то зрабіце сёння выбар, каму хочаце служыць: ці багам, якім служылі продкі вашыя, будучы на другім баку Раю; ці багам амарэяў, на зямлі якіх жывяце. Я ж і мой дом будзем служыць Госпаду.

Народ адказаў такімі словамі: "Няхай не здарыцца нам, каб мы пакінулі Госпада і служылі іншым багам. Бо Госпад – Бог наш. Ён сам вывеў нас і продкаў нашых з егіпецкай зямлі, з дому няволі. Ён учыніў перад нашымі вачыма вялізныя знакі і аберагаў нас на працягу ўсёй дарогі, якою ішлі мы, і сярод усіх народаў, праз якія праходзілі мы. Таму і мы будзем служыць Госпаду, бо Ён - наш Бог.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 34 (33), 2-3. 16-17. 18-19. 20-21. 22-23 Р.: 9а)*

***Рэфрэн: Пакаштуйце і ўбачце, які Госпад добры***

Бласлаўляць буду Госпада
ва ўсе часы,*
Хвала Яго заўжды на маіх вуснах.
Госпадам будзе ганарыцца
душа мая, *
Няхай чуюць пакорныя
і няхай весяляцца!

**Рэфрэн**

Вочы Госпада звернуты
на справядлівых, *
І вушы Яго - на іх крык.
Аблічча Госпада супраць тых,
хто чыніць зло, *
Каб памятаць пра іх сцерці з зямлі.

**Рэфрэн**

Яны клічуць, і Госпад чуе, *
І ад усіх бедаў іх выбаўляе.
Блізкі Госпад да тых,
чыё сэрца змучана, *
І зламаных духам Ён збаўляе.

**Рэфрэн**

Шмат няшчасцяў спадае
на праведнага, *
Але ад усіх яго ратуе Госпад.
Ён сцеражэ ўсе яго косці: *
Ніводная з іх не будзе зламаная.

**Рэфрэн**

Зло забівае грэшніка, *
І ненавіснікі справядлівага
пакараныя будуць.
Госпад вызваляе душы Сваіх слугаў, *
І кожны, хто на Яго спадзяецца,
не будзе пакараны.

**Рэфрэн**

# ЧЫТАННЕ ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПАЎЛА ДА ЭФЕСЦАЎ

*(Эф 5, 21-32)*

Браты:

Падпарадкоўвайцеся адзін аднаму ў боязі Хрыстовай!

Трэба, каб жонкі былі пакорныя сваім мужам, як Госпаду, бо муж – гэта галава жонкі, як і Хрыстос – Галава Касцёла: Ён – Збаўца Цела. Але як Касцёл пакорны Хрысту, так і жонкі мужам – ва ўсім.

Мужы, любіце жонак, бо і Хрыстос палюбіў Касцёл і выдаў за яго самога сябе, каб асвяціць яго, ачысціць абмываннем вадою, якому спадарожнічае слова, каб асабіста паставіць перад сабою Касцёл, як услаўлены, без заганы ці маршчынаў, ці чагосьці падобнага, але каб быў ён святы і беззаганны.

Мужы павінны любіць сваіх жонак, як уласнае цела. Хто любіць сваю жонку, любіць сябе самога. Бо ніхто ніколі не мае нянавісці да свайго цела, але кожны жывіць яго і даглядае, як і Хрыстос – Касцёл, бо мы – члянцы Ягонага Цела.

Таму мужчына пакіне бацьку і маці і паяднаецца з жонкаю сваёю, і будуць двое адным целам. Таямніца гэтая вялікая, а я кажу ў адносінах да Хрыста і да Касцёла.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

Словы Твае, Госпадзе, ёсць дух і жыццё,

Ты маеш словы жыцця вечнага.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

# ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ ЯНА

*(Ян 6, 60-69)*

У той час:

Многія з вучняў Ісуса казалі: "Цяжкія гэтыя словы. Хто ж іх можа слухаць?"

Ісус жа, усведамляючы тое, на што вучні Яго наракалі, сказаў ім: "Гэта вас абурае? А калі ўбачыце Сына Чалавечага, Які будзе ўзыходзіць туды, дзе быў раней? Дух дае жыццё; цела не мае вартасці. Словы, якія Я вам сказаў, – гэта дух і гэта жыццё. Але сярод вас ёсць і такія, што не вераць". Бо Ісус ад самага пачатку ведаў, хто тыя, што не вераць, і хто выдасць Яго. І сказаў: "Вось чаму Я сказаў вам: "Ніхто не можа прыйсці да Мяне, калі яму гэта не будзе дадзена Айцом".

З таго часу многія з Яго вучняў адышлі і ўжо не хадзілі з Ім. Тады Ісус сказаў Дванаццаці: "Ці не хочаце і вы адысці?"

Адказаў Яму Сымон Пётр: "Госпадзе, да каго ж мы пойдзем? Ты маеш словы вечнага жыцця. І мы ўверавалі і пазналі, што Ты – Святы Бога".

***Лектар:*** Гэта Слова Госпада.

***Усе:*** Хвала табе, Хрысце.

# ІСУС ВЯРНУЎСЯ Ў ЗАЛАТАГОРСКУЮ СВЯТЫНЮ

***16 жніўня найстаражытнейшая каталіцкая супольнасць Мінска святкавала ўспамін свайго нябеснага апекуна — святога Роха. З гэтай нагоды Залатагорскі касцёл наведаў Апостальскі адміністратар Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Антоній Дзям'янка.***

Біскуп цэлебраваў тут урачыстую святую Імшу і блааславіў табэрнакулюм, у якім з гэтага дня ў нядаўна вернутай святыні назаўсёды застанецца Езус Хрыстус у Найсвяцейшай Эўхарыстыі.

Вяртанне Хрыста ў касцёл, які, як вядома, з'яўляецца домам Божым, – гэта, бясспрэчна, вельмі значная падзея ў больш чым сямісотгадовай гісторыі парафіі, чыя святыня, зачыненая ў трыццатыя гады, пасля вайны выкарыстоўвалася як кнігасховішча і канцэртная зала і толькі сёлета была вернута каталікам, прычым далёка не ў лепшым стане. Сёння перад парафіянамі стаіць актуальная задача – ратаваць сваю святыню ад паступовага разбурэння.

Калі біскуп Антоній казаў пра тое, што Хрыстос ужо назаўжды застанецца ў старажытных мурах Залатагорскага касцёла, у многіх вернікаў у вачах заблішчалі слёзы… Гэтага моманту яны чакалі на працягу доўгіх пятнаццаці гадоў: з таго часу, калі ў касцёле аднавіліся набажэнствы. Разам са сваім пробашчам кс. Міхалам Сапелем вернікі штодня маліліся аб вяртанні святыні, просячы заступніцтва і дапамогі святога Роха ў гэтай справе. Кожную сераду пасля вячаровай Імшы адбывалася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, якую ў гэтай жа інтэнцыі праводзіла парафіяльная моладзь. І вось, нарэшце, касцёл на Залатой Горцы ізноў стаў сапраўдным домам Божым.

Сёлетняя ўрачыстасць святога Роха сабрала такую вялікую колькасць вернікаў, што невялічкі касцёл не змог змясціць усіх удзельнікаў. Тыя, каму не ўдалося ўвайсці ў святыню, трывала сталі каля адчыненых дзвярэй на працягу ўсёй Імшы, якая доўжылася амаль дзве гадзіны, уважліва ўслухоўваючыся ў словы Літургіі. Акрамя Апостальскага Адміністратара ва ўрачыстасці



бралі ўдзел яшчэ 8 святароў. Пробашч Залатагорскай парафіі кс. Міхал Сапель і канцлер курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кс. Юрый Касабуцкі, які зараз выконвае абавязкі адміністратара парафіі, сардэчна прывіталі гасцей: Вілейскага дзекана кс. прэлата Эдмунда Даўгіловіча-Навіцкага, пробашча парафіі ў Маладзечне, прэфекта Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску кс. Аляксея Раманчука, асабістага сакратара біскупа кс. Пятра Байгера, а таксама пробашчаў суседніх парафій: кс. Сяргея Пекачава, а. Анатоля Ярошку OFM Cap і а. Генадзя Кухарэвіча CSMA.

Успамін святога Роха нездарма адзначаецца на Залатой Горцы як найбольшае парафіяльнае свята. Калісьці ў залатагорскай святыні захоўвалася цудатворная фігура святога Роха, які ўратаваў Мінск ад страшнай эпідэміі халеры, і таму яго імя з'яўляецца другім тытулам парафіі і касцёла Найсвяцейшай Тройцы. У часы панавання атэістычнага савецкага рэжыму фігура святога Роха — адна з найбольш шанаваных хрысціянскіх святыняў нашага горада – бясследна знікла, таксама як і ўся іншая касцёльная маёмасць. Цяпер на месцы старажытнага алтара знаходзіцца сучасная фігура святога апекуна, зробленая вядомым скульптарам Валяр'янам Янушкевічам, які таксама з'яўляецца залатагорскім парафіянінам.

У сваёй гаміліі біскуп Антоній Дзям'янка нагадаў удзельнікам святой Імшы пра драматычны лёс святога Роха, які цалкам прысвяціў сваё жыццё самахвярнаму служэнню церпячаму Хрысту ў бліжніх. Пры жыцці святы Рох не бачыў чалавечай падзякі, а сустрэўся з неразуменнем, непрыманнем і недаверам. Свае дні ён скончыў у вязніцы, памылкова прыняты за варожага шпіёна. Толькі пасля смерці Роха людзі даведаліся, які гэта быў вялікі святы, калі праз яго заступніцтва пачалі адбывацца шматлікія цуды і аздараўленні. Рох не быў ні святаром, ні манахам, але тым не менш ён пакінуў усё дзеля служэння Богу і бліжнім. Жыццё святога Роха для сучасных свецкіх людзей павінна стаць прыкладам адказнага і самаахвярнага служэння Хрысту і Касцёлу.

*Catholic.by*

## БЕАТИФИКАЦИЯ ИОАННА ПАВЛА I

***Первая стадия дела о беатификации Иоанна Павла I завершится в ноябре.***



Об этом сообщил вице-постулатор по этому процессу монсеньор Джорджио Лизе.

В своем интервью Радио Ватикана, прелат отметил, что рассмотрение дела в архиепархии Венеции близится к своему завершению, и его результаты будут направлены в Ватикан уже осенью для дальнейшего изучения Конгрегацией канонизации святых. Свидетельства, касающиеся жизни Папы Иоанна Павла I, уже были заслушаны в Риме, Венеции и Витторио Венето.

До своего избрания Понтификом, кардинал Альбино Лучани был епископом города Витторио Венето, а затем и патриархом Венеции. Понтификат Иоанна Павла I длился менее месяца. Он скончался в 1978 году. Годовщина его избрания на престол св. Петра будет отмечаться в Риме 26 августа.

*Agnuz*

## ФРАНЦИСКАНЦЫ И БЕЖЕНЦЫ

***Францисканцы принимают в свои паломнические центры ливанских беженцев.***

Францисканцы Святой Земли открыли двери своих паломнических центров «Casa Nova» в Вифлееме и Иерусалиме для примерно 2 300 человек, ставших беженцами в результате вооруженного конфликта в Ливане. В этих центрах нашли свой временный приют жители Хайфы, Акры, Сафета и Метулы.

«Уже более трех недель – с 20 июля по 18 августа – в центре 'Casa Nova' в Вифлееме проживают 1 500 человек, ставших беженцами из-за войны. Тем самым центр вносит вклад в помощь многим нуждающимся», – говорит о. Артемио Виторес, викарий Францисканской кустодии на Святой Земле.

По его словам, «это то, чего ожидал св. Франциск от своих монахов», и что имел в виду Папа Иоанн Павел II, когда говорил «о щедром служении францисканцев своим братьям, и поддержке самых бедных и слабых ради любви к Тому, Кто так полюбил нас».

Кустодия Святой Земли «предоставляет свои здания в распоряжение этих людей, окружает их заботой и делает все, чтобы арабские христиане, которых мы считаем братьями в нужде, и особенно дети, чувствовали себя как дома», – заявил о. Артемио.

*Agnuz*

## ПИЙ XII УКРЫВАЛ ЕВРЕЕВ ОТ НАЦИСТОВ

***Римский монастырь Санти-Куаттро-Коронати в годы Второй мировой войны укрывал евреев по личному указанию Папы Римского Пия XII.***

Как сообщает британский католический журнал «The Tablet», этот факт выяснился из дневника одной из обитательниц монастыря сестер-августинок. Дневник, которому уже более 60 лет, попал в руки корреспондента газеты La Stampa. Согласно записи монахини, Пий XII лично отдал настоятельнице монастыря распоряжение прятать евреев, скрывавшихся от нацистских преследований. В анонимном дневнике перечислены имена около 10 человек – в основном евреев, укрывавшихся в монастыре с 1942 по 1944 год. Среди них была еврейская девочка Амалия Витебро, племянница основателя коммунистической партии Италии и секретаря Коминтерна Пальмиро Тольятти. По словам неизвестной монахини – автора дневника, Пий XII «хотел спасти детей и евреев», и поэтому распорядился, чтобы монастыри Рима прятали их от нацистов. После того, как настоятельница Санти-Куаттро-Коронати узнала, что в ее монастырь готовится рейд СС, она помогла своим «гостям» оформить поддельные документы и бежать.



Папу Пия XII часто обвиняют в том, что он ничего не сделал для того, чтобы остановить Холокост. У некоторых историков он даже получил прозвище «Папа Гитлера», однако новые открытия смогут помочь пересмотреть отношение к Понтифику, считает корреспондент «The Tablet».

Кардинал Вальтер Каспер, возглавляющий Папскую комиссию по диалогу с иудеями, считает, что Пий XII оклеветан неоправданно. «Здесь, в Риме, многие католики, евреи и атеисты нашли убежище в монастырях, — заявил прелат на пресс-конференции в итальянской столице. – Немыслимо, чтобы это делалось без ведома Папы». Кардинал Каспер призывает не судить Пия XII «по современным стандартам».

*Agnuz*

## В КИТАЕ СКОНЧАЛСЯ ЕПИСКОП

***После продолжительной болезни в Китае скончался Жень Шодуо, первый епископ Апостольской префектуры Кьянгчоу.***

Узнав о его смерти, которая случилась 16 июля, более тысячи верующих собрались на молитвенное бдение. Заупокойные мессы по епископу совершались все последующие девять дней в церкви

Непорочного Зачатия в Кьянгчоу. В них участвовали местные епископы и около 50 священников, а также представители властей, с которыми у почившего были добрые отношения, сообщает Радио Ватикана.

Жень Шодуо родился 17 марта 1917 года. Был рукоположен в сан священника в 1949 году. Его епископская хиротония состоялась в 1982 году. В 1964 году власти посчитали епископа Женя «контрреволюционером», и последующие 15 лет он провел в трудовых лагерях.

Епископ Жень много внимания уделял формации священников и монахинь. Отличался глубоким почитанием Девы Марии.

*Agnuz*

## БРАЗИЛЬЦЫ ПРОТИВ АБОРТОВ

***Социологический опрос, проведенный недавно в стране, показывает, что население страны не желает более либерального законодательства в части абортов.***

В опросе, проведенном компанией «Datafolha» по заказу издания «Rede Globo», приняли участие около 7 000 человек.

Согласно исследованию, 63% жителей страны убеждены, что абортивное законодательство не нуждается в изменениях, т.е. аборт должен быть разрешен только в случаях, когда беременность угрожает жизни матери, или же является результатом изнасилования. Два года тому назад такой точки зрения придерживался только 41% бразильцев.



17% населения страны полагают, что законодательство в части абортов должно стать более либеральным, а 11% заявили о своей поддержке практики абортов по требованию.

*Agnuz*

## ЛИШЬ ОБРАТИВШИСЬ К БОГУ...

***Лишь обратившись к Богу, мы сможем удовлетворить жажду истины и счастья, напомнил Бенедикт XVI.***



В своей катехезе Папа призвал присутствующих обратить свой взор на Марию, нашу Небесную Матерь. Он, в частности, сказал:

В торжестве Успения, которое отмечалось 15 августа, Церковь празднует прославление, в том числе и телесное, женщины, Которую Господь избрал Себе в качестве Матери...

Как сделать так, чтобы это знамение надежды было воспринято в сегодняшнем обществе? Некоторые сегодня живут так, как будто они никогда не умрут или как будто все кончится вместе со смертью. Некоторые ведут себя так, как будто Бога не существует. Успехи науки и техники, которые заметно улучшили условия жизни человека, оставляют без ответа самые глубокие вопросы . Лишь обратившись к Богу, Который есть любовь, мы сможем удовлетворить жажду истины и счастья, лишь перспектива вечности может придать подлинную ценность историческим событиям и тайне человеческой слабости, страдания и смерти.

Созерцая Марию, мы понимаем, что и для нас земля не является единственным отечеством, и что, если мы будем жить, обращаясь к вечным благам, мы однажды разделим славу самой Богоматери.

*Agnuz*

## 10 МИЛЛИОНОВ ДОЛЛАРОВ ПОМОЩИ

***Благотворительная католическая организация «Catholic Relief Services» заявила о скорой выдаче 10 млн. долларов США на оказание помощи людям, пострадавшим в результате конфликтов в Газе, Израиле и Ливане.***

Сейчас CRS сотрудничает с ливанским и иерусалимским отделениями «Каритас» и предоставляет жизненно необходимые медикаменты пострадавшим людям. «Каритас» Ливана располагает 36 офисами, 9 медицинскими центрами и 8 передвижными клиниками.

С начала израильской операции в Ливане 12 июля, свыше 900 000 ливанцев – около 25% всего населения – были вынуждены покинуть свои дома. В настоящий момент CRS и отделения «Каритас» оказали помощь 85 000 человек, и планируют помочь еще 100 000 жителям. Многие беженцы вынуждены искать убежище в садах, школах, монастырях, мечетях, заброшенных зданиях, складах и машинах. Их выживание полностью зависит от помощи гуманитарных организаций.




Ежедневно раздаются продукты питания, питьевая вода, средства гигиены, одежда, матрасы, детское питание и подгузники.

Кроме того, в Ливане находятся свыше 100 000 рабочих-мигрантов, которые не могут вернуться в свои родные страны. В Газе «Каритас» Иерусалима оказывает помощь 1,4 млн. палестинцев, половина из которых – дети. На прошлой неделе CRS раздала 450 комплектов продуктов питания и средств гигиены семьям в Газе, и 950 комплектов в лагерях для беженцев.

*Agnuz*

# КАСТЕЛЬ ГАНДОЛЬФО – ЛЕТНЯЯ РЕЗИДЕНЦИЯ ПОНТИФИКОВ

***В конце июля Святой Отец Бенедикт XVI покинул альпийскую деревню и переехал в летнюю резиденцию Понтификов - Кастель Гандольфо. Теперь он сможет держать Ватикан под присмотром, и при этом Папа скроется от духоты мегаполиса, где летом дневная температура упорно держится выше 30 градусов.***

Кастель Гандольфо расположен на берегу вулканического озера Альбано, где вода синяя и чистая, а по волнам снуют серфингисты.

Папская вилла стоит на западном склоне озера. С ее балкона открывается великолепный вид на воду и холмы. Именно этот вид демонстрировал Бенедикт XVI королевской чете Испании 5 сентября прошлого года в ходе аудиенции, после которой Король Хуан Карлос заявил, что для него «честь увидеть» Папу, и назвал его «очень симпатичным, очень открытым и очень остроумным».

Святой Престол приобрел землю в этом городке в 1596 году. Папа Климент VIII был первым Понтификом, проводившим здесь летние каникулы. С тех пор никто не избежал местного очарования, даже русские живописцы. Картина Александра Иванова «Дерево над водой в Кастель Гандольфо» находится сейчас в «Русском Музее» Петербурга.

То, что Святой Престол завел резиденцию в Кастель Гандольфо весьма символично. Здесь однажды пристали к берегу корабли беглецов из сожженного Илиона. Легенда связывает основание первого поселения здесь с Асканием, сыном Энея, последнего оставшегося в живых из царского рода Трои.



Здесь же родились близнецы Ромул и Рем, и сбылось предсказание об основании Вечного города, который вскоре поглотит город-соперник, а значит отсюда пошла земля Латинская.

Согласно легенде, вопрос первенства был решен в поединке меж братьями Куриациями, защищавшими Альба Лонгу, и Горациями, выставленными Римом. Затем третий царь Рима, Тулл Гостилий, счел необходимым и вовсе лишить самостоятельности строптивый город, переселил жителей Альба Лонги в Рим. На месте Альба Лонги пролегла Виа Аппия, раскинулись виллы патрициев, в их числе – и вилла императора Домициана…

Темные века после падения Рима принесли сюда разорение и запустение, но уже в раннее средневековье виллы сменились замками. Грамота XII века подтверждает принадлежность земель братьям Симону и Павлу де Кандульфис, чье имя сохранилось в названии замка и сейчас.



В середине XVII века дворец, возведенный на руинах летней резиденции императора Домициана, был перестроен. Но до сих пор в папских садах встречаются торжественные обломки империи.

Помимо дворца, Ватикан владеет в Кастель Гандольфо виллой Барберини и церковью св. Фомы Вилллановского, построенной знаменитым Бернини. Творчеству Бернини принадлежит и площадь с прекрасным фонтаном.

Начиная с 1870 года, когда Итальянская Республика оставила Ватикан без недвижимости, Папы перестали приезжать в Кастель Гандольфо. В 1929 году был подписан конкордат между Святым Престолом и Италией, и по договору резиденция в Кастель Гандольфо объявлялась частью территории Ватикана. Тогда она вновь стала использоваться. Для Папы Пия XII там разводили овечек, Павел VI здесь скончался, а Иоанн Павел II всегда возвращался в Кастель после изматывающих поездок и оживал.

Сейчас город находится под покровительством святого Себастьяна, праздник которого отмечается в первое воскресение сентября. Но на гербе города не стрелы, пронзившие тело святого, а «олимпийские» кольца.

В 1936 году рядом с виллой была построено еще одно знаменитое здание - ватиканская обсерватория.

*Ричард Павлов*
*Ратцингер-Информ*

# НАВІНЫ

## МУЗЕЙ ЗАЩИТЫ НЕРОЖДЕННЫХ ДЕТЕЙ

***В Австрии открылся первый европейский музей, посвященный защите нерожденных детей.***

Первый в Европе музей, посвященный защите нерожденных детей, был освящен в Шремсе (земля Нижняя Австрия) в конце июля. Экспонаты музея призваны донести до посетителей чудо жизни и боль, которая остается после того, как эта жизнь обрывается в результате аборта.

Одним из экспонатов музея стал большой крест, сооруженный из медицинских инструментов, которые используются в ходе операции по искусственному прерыванию беременности. Ранее эти инструменты использовались в абортивных клиниках и были предоставлены в распоряжение музея защитниками нерожденной жизни из международной организации «Human Life International».

К слову, в эти дни HLI отмечает 10-летие своей деятельности. Организация была основана Павлом Марксом в Нью-Йорке. По обыкновению, сотрудники HLI проводят молитвенные акции перед абортариями и раздают буклеты, в которых рассказывается о внутриутробном развитии ребенка и негативных последствиях аборта.

*Agnuz*

## ПАПА ПОЧТИЛ ПАМЯТЬ БРАТА РОЖЕ

В ходе общей аудиенции Святейший Отец почтил память брата Роже Шютца, основателя экуменической общины Тезе, который был убит 16 августа 2005 г.

После аудиенции с верующими, собравшимися в летней папской резиденции в Кастель Гандольфо, Понтифик напомнил, им, что ровно год назад трагически скончался брат Роже.

Бенедикт XVI отметил, что пример брата Роже и его вклад в дело экуменизма являются «ценным свидетельством для целых поколений молодежи».

*Agnuz*

# ВІНШУЕМ МАЛАДЫХ

**Аддаём пад апеку Бога маладых, давяраючы, што стрымаюць у сваім жыцці сужэнскую прысягу. Просім нашых парафіянаў аб малітве за іх:**

1. Андрэеева Дзмітрыя і Андрэееву (Садоха) Таццяну
2. Мамнева Аляксандра і Кухарчык Юлію
3. Казака Сяргея і Казак (Кульбіцкую) Ірыну
4. Краўчанка Андрэя і Бабкову Юлію
5. Панамарова Аляксандра і Гайдук Вольгу
6. Шынкевіча Андрэя і Канапацкую Таццяну
7. Зароўскага Юрыя і Кутас Наталлю
8. Хамерскага Руслана і Сардыка Надзею
9. Максімовіча Сяргея і Абрамаву Алесю
10. Дзянісенка Дзяніса і Дарошка Зінаіду



*Любоў церпіць доўга, любоў міласэрная, любоў не зайздросціць, не праслаўляе сябе, не ганарыцца, не шукае свайго, не цешыцца з няпраўды. Любоў ніколі не знікае...*

# СВЯТЫ ХРОСТ

**З радасцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:**

1. Анастасія Багдановіч, дачка Мікалая і Алены
2. Ліана Крывецкая, дачка Сяргея і Валянціны
3. Ангеліна-Таццяна Рогава, дачка Аляксандра і Юліі
4. Раман Кашынскі, сын Андрэя і Кацярыны
5. Ілля Казак, сын Сяргея і Ірыны
5. Вольга Агеенка, дачка Уладзіміра і Анэлі
6. Іван Кацэла, сын Ігара і Марыны



*Божа, Ойча ўсяго жывога! Зірні ласкава на гэтае дзіцятка, якое Ты даў нам. Адары яго верай, надзеяй і любоўю, учыні, каб, узрастаючы ў ласцы і любові, заквітнела добрымі ўчынкамі.*

## СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА

. 2006г. у . гадзін

у інтэнцыі

| 28 жніўня Панядзелак | 29 жніўня Аўторак | 30 жніўня Серада | 31 жніўня Чацвер | 1 верасня Пятніца | 2 верасня Субота | 3 верасня Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - * | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 8.00 - ✞ | 8.00 - * | 8.00 -* |
| 12.00 - ✞ | 12.00 - * | 12.00 - * | 12.00 - * | 9.00 - ✞ | 10.00 - ✞ | 9.00 -* |
| 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 12.00 - * | 12.00 - ✞ | 11.00 - * |
| 19.00 - * | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 17.00 - ✞ | 13.00 - S |
| | | | | 19.00 - ✞ | 19.00 - * | 17.00 - *👪 |
| | | | | | | 19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых
* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай
S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі
M – Св. Імша з удзелам парафіяльнай моладзі
PL – Св. Імша на польскай мове
👪 – Св. Імша для дзяцей
**скл.** – складковая Святая Імша
IT – Св. Імша на італьянскай мове
♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**

**28 жніўня** - Успамін св. Аўгустына, біскупа і доктара Касцёла
**29 жніўня** - Успамін Пакутніцтва св. Яна Хрысціцеля
**1 верасня** - Першая пятніца месяца
**2 верасня** - Першая субота месяца

**27 ЖНІЎНЯ - 21 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

## ВІНШУЕМ



**Сябры, калегі, а таксама дзеткі з нядзельнай школы і іх бацькі віншуюць Марыю Лясніцкую з надыходзячым Днем Нараджэння. Даражая Марыйка! Званочкам гучыць твой голас, з тваёго шчырага сэрца зыходзяць цяпло і пяшчота, для кожнага ты знаходзіш добрыя словы і мудрыя парады. Няхай Маці Божая вядзе цябе праз жыццё, а ласка Божая падтрымлівае ў цяжкія хвіліны.**

## ІМЯНІНЫ

**28 жніўня** – Аўгусцін, Патрыцыя, Аляксандр, Аляксандра, Івона
**29 жніўня** – Сабіна, Дзямід, Ян, Артур, Ірэна, Яна, Яніна, Дзямід
**30 жніўня** – Эвіта, Фэлікс, Мірон, Ульяна, Фэліцыята, Ружа, Баноній, Яўціх, Маргарыта, Купрыян, Павел, Піліп
**31 жніўня** – Багдан, Раймонд, Раймонда, Лаўра, Лаўрэн, Лілія, Багдана, Геогій, Дзяніс, Емельян, Іван, Іларыён, Макар, Серапіён, Марк
**1 верасня – св. Ідзі, абат, бл. Браніслава** – Браніслаў, Андрэй, Аліцыя
**2 верасня – бл. Саламон і яго паплечнікі, пакутнікі** – Сцяпан, Юльян, Юлія, Ала, Стэфанія, Самуіл
**3 верасня – св. Грыгорый I Вялікі, папа і доктар Касцёла** – Сымон, Ізабэла, Серафіма, Абрам, Агапій, Фадзей

Голас душы № 34 (217) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 2003 г.
Заснавальнік: грамадскае аб'яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрнасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by, www.churchminsk.by
Падпісана да друку 24.08.2006. Фармат 60х84 1/8. Наклад 250 асобнікаў. Заказ №

# ЭДВАРД ВОЙНИЛОВИЧ

# ВОСПОМИНАНИЯ

## УЗОР АЙЦА, ФУНДАТАР І МЕЦЭНАТ ПАБУДОВЫ КАСЦЁЛА св. Сымона і св. Алены, а наш суайчыннік Эдвард Вайніловіч, 11 чэрвеня вярнуўся ў свой храм!



*Продолжение. Начало в № 7.*

Поезд остановился, император вышел. Звучала мелодия национального гимна, и дружное «ура», выкрикиваемое толпой крестьян. Он пожал руку выстроившимся на перроне помещикам, принял рапорт, и, не выступив с речью, уехал на Юг отправлять на фронт дополнительные войска. Аналогичным образом такая же церемония повторилась в Минске, где нас собрали на станции Либаво-Раменской железной дороги, лишь только с той разницей, что губернский маршалок по долгу службы и от имени шляхты передал собранную на военные нужды, насколько я помню, сумму в 20 000 руб. Император опять не выступил перед собравшимися, да и радоваться, собственно, было нечему: за несколько часов до этого была получена депеша о падении Порт-Артура.

Мукдэн, а затем Цусима, наконец-то, заставили Российское правительство серьезно задуматься над сложившейся ситуацией, хотя уже было поздно, поскольку разложение в войсках достигло своего апогея. Войска, отступая после поражения, создавали по пути различные сибирские республики, а в это время в государстве проходили съезды и собрания, на которых пытались перещеголять друг друга идущими далеко запросами. Постулаты, формулируемые на «особых совещаниях», о которых я писал раньше, уже были недостаточными, так как центробежные волны распространяли все шире и глубже волнующиеся круги. К этому движению начали присоединяться и даже доминировать демократические, а скорее, анархические, общественные слои – и, как обычно бывает, инициаторы движения-«земцы», оказались обойденными теми, кого они вначале привлекали к участию в движении.

Специфика этого движения тем и отличалась, что движение это было не национальным, а государственным. Оно возникло не как обычно, на обособленных окраинах, «легких на подъем» в случае любых волнений, касающихся неудовлетворения своих требований автономии, а наоборот, это движение исходило из глубины России, инициировалось земским самоуправлением и вовлекало свои «Кресовые» провинции во всеобщий протест против существующего порядка. Происходило нечто необычное: на съездах земцев в России можно было увидеть представителей не только окраин, но и Королевства, до сих пор подчеркивающих своеобразие и отличие своей культуры и политических прав от остальных территорий государства и раньше не принимавших участия в российских волнениях.

На этих съездах земцев я ни разу не был, и не потому, что не верил в реальность их обещаний, а скорее потому, что в этой «земской» среде позже выделилось конституционно-демократическое направление, так называемые «кадеты», которые для приобретения популярности и усиления своего влияния объявили принцип четырехатрибутивного голосования, а аграрные реформы связывали с принудительной экспроприацией. Как первое, так и второе настолько претило моим убеждениям и всей моей предыдущей деятельности, что я сразу понял: мне там делать нечего. Я знал, что не смогу их переубедить так же, как и они меня. Я был убежден, что четырехатрибутивное голосование и принудительная экспроприация – это последний удар по земельной собственности в нашем Крае, по существующей системе собственности, за которую мы сражались с таким самопожертвованием, вопреки всем указам и циркулярам. Ведь каждый собственник земли в условиях постоянно растущих цен на землю мог бы, превратив в деньги свои владения, получить наличный эквивалент, который принес бы большие проценты, чем недвижимость, и поселиться там, где нет никаких «исключительных прав».

Поскольку вся жизнь провинции концентрировалась в Аграрном Обществе, единственной коллективной организации земской интеллигенции, естественно, что новые течения при помощи прессы, или отчетов участников земских съездов, не могли не отразиться на настроениях общих собраний Общества и на пожеланиях, вносимых время от времени членами в Совет Общества. Совет, как страж легальности собраний и уставных положений, должен был не один раз сдерживать порывы выступающих и авторов проектов, чтобы

не подвергать опасности существование самого Общества, попрежнему находящегося под наблюдением «бдительного ока» местной администрации. С другой стороны, невозможно было не учитывать настроений дня, вследствие чего перед председательствующим на собрании стояла трудная задача. Необходимо еще добавить, что, в связи с подъемом свободолюбивых настроений в Королевстве, многие были выселены правительством и осели в Минске. Они со свойственной «коронцам» презумпцией полагали, что их предназначение заключается в управлении жизнью нашей провинции, не зная существующих здесь условий и не понимая специфики общественного строя здесь, на Минщине, где деревня имеет иную речь и иную веру в отличие от Двора. Причем, большую часть среди вынужденных эмигрантов составляли представители городской интеллигенции, люди свободных профессий, которые в какой-то степени уже на местах начали увлекаться социалистическими идеями. Эти господа охотно вступали в ряды Аграрного Общества, и, не всегда заплатив вступительные взносы, получали доступ к трибуне на общих собраниях, где провозглашали «свободолюбивые идеи», и иногда громко звучащими лозунгами увлекали за собой неискушенных и малоопытных членов Общества. Однако,следует отдать должное здравому рассудку собрания - несмотря на бурные заседания, никогда Аграрное Общество не выносило из зала постановлений, противоречащих старым традициям Края и возможностям его культурного развития в будущем. Я помню, например, после первой большой забастовки железнодорожников и почтовиков, которая летом 1905 года потрясла всю страну и показала силу подрывных организаций, осенью того же 1905 года, когда Аграрное Общество собралось в Минске, начали ходить слухи о том, что назревает новая, намного лучше подготовленная, забастовка, которая затронет уже наши поселки и деревни, и по образцу России завершится всеобщим погромом. Некоторые события уже свидетельствовали о надвигающейся грозе, в связи с чем возвращающиеся с Японской войны различные осетинские, кавказские и т.д. сотни предлагали свои услуги землевла- дельцам по охране собственности. Это практиковалось во многих местах, особенно на юге России.

(Вспоминаю одну из фотографий того времени, на которой изображен один из крупных землевладельцев Херсонщины Фальц-Фейн на параде наемных осетинских сотен).

Собравшиеся в Минске землевладельцы с возмущением отвергли эти предложения, будучи убеждены, что между Двором и деревней в Беларуси чужим элементам места нет. И это было бы самым разумным, если бы между деревней и Двором не начали работать чуждые подрывные элементы, выдвигающие лозунги, возникшие на чужой почве и не имеющие ничего общего с духом белорусского населения, и отравляющие этот дух.

Помнится, на одном из вечерних заседаний Аграрного Общества, около восьми часов вечера, к председательскому креслу подходит секретарь и шепчет мне на ухо: «Забастовка назначена на утро, надо сегодня последним поездом отправить супругу домой». Я немедленно распорядился относительно жены, а сам продолжал вести собрание, не желая сеять всеобщую панику. Тут же приносят мне бумагу от тогдашнего губернатора Курлова (известного в период властвования Столыпина вице-министра по делам полиции), вызывающего меня, как председателя Аграрного Общества, на заседание в 12 часов ночи. Заканчиваю заседание, еду к губернатору. В секретариате звонят телефоны: полицмейстер узнает что, якобы, уже какие-то беспорядки начались на Виленском и Варшавском вокзалах. Вхожу в зал заседаний: здесь собрались высшие чиновники, представители прокуратуры, суда, государственной казны и т.д. На столе огромная карта, утыканная булавками, красными и синими флажками. Синего цвета немного возле Борисова, Бобруйска и Несвижа, в остальных местах преобладает красный цвет. Губернатор объясняет: синий цвет - это места расположения правительственных войск и кавалерии, а красные полосы – это населенные пункты, в которых ожидаются волнения. Перспектива невеселая. Губернатор предлагает направить сюда отряд осетинцев, как предупредительную меру, за счет землевладельцев. Он может быть уже на месте через 6-8 недель, что было мало утешительным, особенно для тех, кого уже не стало бы к тому времени. Все взгляды останавливаются на мне. От имени землевладельцев я отвергаю предложение и заявляю, что мы постановили возвращаться домой и личным влиянием противостоять любым анархическим намерениям. Собравшиеся иронично нас поздравляют с принятым решением. Выхожу – ктото подходит ко мне в темноте на губернаторском крыльце и сообщает: «Будьте спокойны, господин председатель, мы вас еще завтра домой пропустим». Это был агент нового Железнодорожного Правления. Выезжаю очень рано. На вокзале никакого оживления, все ждут новостей из Москвы: как идут бои на улицах Москвы, и как адмирал Дубасов, командуя Семеновским полком, топит в море крови участников уличных выступлений. И утопил - на все десять лет приостановил события. Я его, как коллегу, позже встречал в Государственном Совете. Он ходил без личной охраны. Высокого роста, с гордо поднятой головой, опираясь на трость, он спокойно шел по Невскому проспекту. Это он во время Турецкой войны 1877 г. подплыл в лодке к турецкому бро неносцу и взорвал его миной. С Курловым я встретился в Петрограде, уже не как с гражданским сановником, а в форме генерала, как с начальником Главного тюремного управления. Позже он занимал должность начальника полиции и государственной охраны...

*Ксендз Владислав Завальнюк*

*Продолжение следует*